# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1168) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 16 ЛІПЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




*Гарадоцкіх самадзейніц не перапалохаў нават дождж.*

## ФЭСТ у Гуранах

Культурна-асветнае жыццё вёскі Гураны (гэта ў гміне Крынкі, на Сакольшчыне) засяроджваецца перш за ўсё ў мясцовым доме культуры, якім ужо пяты год кіруе **Галена Радэль.** Невялічкі мураваны будынак, які астаўся ў спадчыне ад сядзібы даўнейшых адміністрацыйных улад, ужо сваім вонкавым выглядам выклікае станоўчую ацэнку. За драцяной агароджай цвітуць кветкі, яны таксама на клумбах, уфармаваных з выпрацаваных трактарных шын (апонаў). Кветкі дбайна прапалаты, няма пустазелля, не красуецца ўсюды прысутная крапіва. Затое растуць дрэвы і сакавітая трава. Яна зялёным дыванам засцілае ўвесь панадворак, дзе пад старой грушай гуранская моладзь абсталявала пляцоўку для гульняў. Падлога заліта бетонам, навокал лавачкі і дбайна адмаляваны плоцік з драўляных шчыкетаў, а побач, на дыване зялёнай муравы, столікі з распілаваных бярвенняў, каб можна было адпачыць пасля гульняў, пагутарыць з сябрамі, калі, вядома, спрыяе надвор'е і не ідзе дождж, які прывітаў нас у Гуранах у нядзелю 25 чэрвеня, у час нашай пабыўкі ў гэтай вёсцы з нагоды народнага фэсту, які наладзіла там Галоўнае праўленне БГКТ супольна з палітычным і адміністрацыйным кіраўніцтвам Крынкаўскай гміны.

— Гураны, — гаварыў мне прысутны на гэтым фэсце начальнік Крынкаўскай гміны **Вячаслаў Пратасевіч,** — адна з лепшых вёсак у нашым раёне дзеяння. Яна ў нас заваявала першынство за 1976 год у конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная".

— А гуранскі дом культуры, — папаўняе сакратар гміннага камітэта партыі Галіна Тамулевіч, — быў ацэнены на трэцім месцы ў ваяводстве за сваю актыўную дзейнасць для вясковага асяроддзя. Яго кіраўнічка, Галена Радэль, пастаянна наладжвае нейкія культурныя мерапрыемствы і сустрэчы з пісьменнікамі і вядомымі дзеячамі.

— Яшчэ я хачу сказаць, — заяўляе начальнік, — што тут, у Гуранах, знаходзіцца велізарная, адна з буйнейшых на Беласточчыне, авечая ферма спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў, у якой гадуюць нейкіх 1300 штук пародзістых авечак.

— І сённяшні фэст, — гаворыць сакратар Галіна Тамулевіч, — мы рашылі наладзіць менавіта тут, у Гуранах, каб выявіць сваю падзяку жыхарам гэтай вёскі за іх гаспадарчую і грамадскую актыўнасць.

З-за чорнай хмары прабіліся на хвілінку сонечныя прамені. Халодны дождж перастаў марасіць. Начальнік гміны Вячаслаў Пратасевіч аб'явіў фэст адкрытым, з дакладам выступіў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік і пачаліся спевы. Спярша

(Працяг на стар. 5)

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## БАРТНІКІ

Адлеглы і незаезны гэта куток: за мястэчкам Ліпск, што ў Сувальскім ваяводстве, трэба з'ехаць направа на шашу Аўгустоў — дзяржаўная граніца і, пад'ехаўшы па ёй 2-3 кіламетры, павярнуць налева. Паўднёва-ўсходняя ўскраіна колішняй Яцвягіі. Але па тых адлеглых часах ніякіх слядоў не асталося, мо толькі ў недаследаваным кургане, што высіцца на палетку Віткоўскага, захавалася нешта. Тутэйшыя назвы палёў і лугоў: **Агароды, Барок, Дубнік, Есяноўка, Заражок, Паловалак, Погнае, Прыдатак, Роўніца, Рудароў, Стара, Цвірць** і рэчак **Валкушанка** і **Марыхна** хіба ж нічога яцвяжскага ў сабе не тояць. Бо і не могуць: узніклі яны недзе ў XV-XVI стагоддзях, гэта значыць, на дзве сотні год пазней, калі не стала ўжо яцвягаў.

Сённяшнім Бартнікам дало пачатак паселішча бортнікаў, гэта значыць пчаляроў, якія займаліся гадоўляй пчолаў у колішняй Пярстунскай пушчы, што склала потым аснову сённяшняй Аўгустоўскай пушчы. Гэтае паселішча паўстала непадалёк ад каралеўскага фальварка Перстунь, паблізу вёсак Старожынцы і Багатары, у якіх жылі асочнікі — тагачасная лясная стража. Ад 1589 г. да канца XVIII стагоддзя яны ўваходзілі ў Гродзенскую эканомію. Потым гэтыя сёлы трапляюць у прыватнае ўладанне і становяцца паншчыннымі, прыналежнымі да двара ў Галынцы. Надта ж незайздросны і няпэўны лёс быў у іх жыхароў. Галынкаўскія ўладальнікі рабілі з імі, што ў галаву прыйшло: прадавалі, выменьвалі на коней ці нават гончых сабак, праігрывалі ў карты. Вынікі гэтага прымусовага бадзяння прыгоннага сялянства, мабыць, асталіся і ў той мешаніне прозвішчаў жыхароў у былых паншчынных вёсках. Напрыклад, у Бартніках сярод іх няцяжка заўважыць не толькі тутэйшых беларусаў, але і выхадцаў з суседніх Літвы і Мазоўша: **Аляксейчык, Бугеда, Вільчынскі, Гецьман, Грышко, Дадура, Данільчык, Драпчынскі, Дэц, Жлінскі, Зажэцкі, Каўрач, Крыштаповіч, Мазеўскі, Макоўскі, Несцер, Пліско, Ракус, Садаўнічы, Саванецкі, Сапежка, Слімко, Снапко, Тальмон, Ткачук, Трэбак, Ярмусік, Ціквінскі.** Апрача цяжкай працы на дваравым, уладальнікі Галынкі патрапілі выцягнуць з сялян апошняе праз карчму, што калісьці стаяла ў канцы сяла, і ў якой ні адзін бартнічанін, пачаўшы забаўляцца гарэлкаю, пакінуў палавіну свае гаспадаркі. А

(Працяг на стар. 3)

З ПРЭПАРЦЁРСКІХ ЗАПІСАК

## МІХАЛОЎСКАЕ ЗОЛАТА

Не ўсё золата, што зіхаціць і свеціцца. За Міхаловам у Імшары золата змяняе свой колер ад шэракарычневага торфу да блакіту неба, адбітага ў возеры Гарбач. Усё залежыць ад таго, хто глядзіць на гэты Імшар, на яго натуральныя і прыродазнаўчыя багацці.

Для мясцовых улад, для начальніка гміны, для кіраўніцтва прадпрыемства па здабычы торфу міхалоўскае золата перш за ўсё мае карычневы колер торфу — высакаякаснага, лёгкадаступнага, глыбокім пластом залягаючага тут на аграмаднай паверхні. Ужо 12 год ідзе яго здабыча. Беластоцкае прадпрыемства лясной прадукцыі „Лес" і падпарадкаванае яму прадпрыемства па вытворчасці торфу ў Імшары атрымалі на свае капіталаўкладанні звыш 30 мільёнаў зл. У замен пастаўляюць кожны год прадукцыю, значыць торф, вартасцю ў 22-25 мільёнаў злотых.

— Торф у нас, — агаворваецца цяперашні дырэктар прадпрыемства на Імшары інжынер Сцяпан Ляшкевіч, — вельмі танны і таму гэтыя лікі 22-25 мільёнаў зл. не адлюстроўваюць поўнасцю велічыні таварнай вытворчасці нашага калектыву.

Каля 20% гэтай вытворчасці прызначаецца на экспарт. Кажуць, што нават шах Ірана закладае свае палацовыя аранжэрэі на торфе з-пад Міхалова.

І таму ў гаспадарчых планах Міхалоўскай гміны Імшар займае важнае месца. Начальнік хацеў бы бачыць тут шырока разгорнутае жыллёвае будаўніцтва, грукат машын, шырокі фронт працы.

* ❊ *

Для прыхільнікаў прыроды, якіх на Беласточчыне ўзначальвае прафесар Базылі Чэчуга, міхалоўскае золата мае колер блакіту неба, адлюстраванага ў возеры Гарбач, мае яно жоўтафіялетавы колер ледзь прыкметнай, але надзвычай рэдкай кветачкі-расічкі, мазаікавы колер баравіны, колер імху і многіх іншых раслін, вядомых толькі знатакам тайнаў батанікі.

* ❊ *

Ідзем бліжэй пазахапляцца адным і другім відам міхалоўскага золата. Праз тарфянік, парэзаны асушальнымі канавамі, развораны гусеніцамі цяжкіх трактараў, накіроўваемся ў прыродазнаўчы запаведнік Гарбач — названы так ад суседняй вёскі і аднайменнага возера.

Вось за гэтае возера, за гэты запаведнік ужо шмат гадоў ідзе заўзятая барацьба. З аднаго боку ваяводскае праўленне Лігі аховы прыроды, якое цвёрда падтрымоўваюць журналісты з клуба аховы натуральнага асяроддзя і ваяводскі кансерватар прыроды інжынер Язэп Хілінскі, а з другога боку — дырэктар прадпрыемства па вытворчасці торфу інжынер Сцяпан Ляшкевіч і яго начальнікі з Беластока і Варшавы. Усе разам 19 чэрвеня сабраліся ў Імшары за Міхаловам, сабраліся, дарэчы, ужо не першы раз.

— Мы не імкнемся да таго, каб спыніць здабычу торфу, — сцвярджае прафесар Чэчуга. — Мы за разважлівы, разумны кампраміс. Прадукцыйная

(Працяг на стар. 4)



*— Прамысловая здабыча торфу ў Імшары, — сцвярджае ваяводскі кансерватар прыроды Язэп Хілінскі (злева), — пагражае існаванню запаведніка і возера Гарбач.*




# ВЯЛІКАЕ СВЯТА ГОРАДА–ГЕРОЯ

Сардэчна сустрэлі 25 чэрвеня мінчане Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Леаніда Брэжнева, які прыбыў для ўдзелу ва ўрачыстасцях, прысвечаных уручэнню гораду-герою ордэна Леніна і медаля „Залатая Зорка". Вітаць Л. Брэжнева на па-святочнаму ўпрыгожаныя вуліцы і плошчы горада выйшлі сотні тысяч мінчан.

З вакзала картэж машын прыбыў на плошчу Перамогі. Ля велічнага помніка-абеліска, узведзенага ў гонар воінаў Савецкай Арміі і партызан, была выстраена ганаровая варта. Аркестр выканаў мелодыю „Слаўся!" М. Глінкі. Да падножжа абеліска Л. Брэжнеў злажыў вянок з надпісам: „Воінам, партызанам, падпольшчыкам, якія загінулі ў барацьбе за гонар, свабоду і незалежнасць Радзімы, ад Л. І. Брэжнева".

Затым Л. Брэжнеў зрабіў паездку па гораду. У той жа дзень у Вялікім тэатры оперы і балету Беларускай ССР адбылося ўрачыстае ўручэнне гораду найвышэйшай узнагароды.

У зале сабраліся ветэраны партыі, вайны і працы, ганаровыя грамадзяне горада, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай Працы, члены і кандыдаты ў члены ЦК КПБ, члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, дэпутаты Вярхоўных Саветаў СССР і БССР, члены Ваеннага савета Беларускай ваеннай акругі, вядомыя военачальнікі, якія прымалі непасрэдны ўдзел у ажыццяўленні аперацыі па вызваленню Мінска. Былі таксама кіраўнікі рэспублікі перыяду Вялікай Айчыннай вайны, сакратары падпольных абкомаў і Мінскага гаркома Кампартыі Беларусі, камандзіры і камісары партызанскіх брыгад, былыя падпольшчыкі і партызаны, дэлегацыі з усіх абласцей рэспублікі.

У сваім выступленні на ўрачыстасці Л. Брэжнеў даў высокую ацэнку мінуламу змаганню і працы мінчан і з пачуццём глыбокага задавальнення гаварыў аб цяперашнім Мінску, называючы яго адным з самых прыгожых гарадоў савецкай краіны.



На здымку: Мінск, вуліца Талбухіна.
Фота В. Бараноўскага.

## У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**225 гадоў назад**

16 VII 1723 нар. Дж. Рэйналдс, англійскі жывапісец, найбольш значны партрэтыст XVIII ст.

**100 гадоў назад**

22 VII 1878 нар. Януш Корчак, польскі педагог і пісьменнік.

**90 гадоў назад**

20 VII 1888 нар. Эміль Зэгадловіч, польскі пісьменнік і драматург.

**85 гадоў назад**

19 VII 1893 нар. Уладзімір Маякоўскі, рускі савецкі паэт, адзін з пачынальнікаў савецкай літаратуры.

**30 гадоў назад**

20 VII 1948 быў створаны Саюз польскай моладзі (ZMP).

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. nr 1558, 6.400 egz. N-4






**Равеснік Народнай Польшчы • Новыя вершы Максіма Танка • Застанецца ў нашых сэрцах • Фэст у Рыбаках • Чорт • Лета гайнаўскіх ліцэістаў • Палоска дзядзькі Кваса • Весткі з Лясанкі, Чыжоў, Шудзялава, Чаромхі, Нараўкі, Рудут, Бельска, Міхалова, Ліпін, Тафілаўцаў, Белавежы • Калі сніцца чырвоная вада • З „Весніка Задрыпанкі" • Песня** „Należy nam się taki dzień".




**Sobota 15 VII** — 14.55 Program dnia. 15.00 Radzimy rolnikom. 15.10 Dziennik. 15.40 Magazyn wędkarski. 16.10 Magazyn lotniczy. 16.40 Złote ręce — reportaż film. 17.05 Pasjans — film fab. CSRS. 18.30 Formuła szczęścia — teleturniej. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Walet karowy — komedia USA. 22.20 Dziennik. 22.35—23.20 Naszyjnik Królowej — pastisz musicalowy.

**Niedziela 16 VII** — 6.55 Zajęcia wakacyjne: prace żniwne. 7.15 Opasy. 7.35 Alarm przeciwpożarowy trwa. 7.45 Nowoczesność w domu i w zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników — poradnia. 8.20 Studio sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino teleranka. Lato z Kasią. 9.25 Antena. 9.50 Życie rzeki — ang. film dok. 10.20 Klub sześciu kont. Zdobywcy Bieguna Północnego. 11.20 Dziennik. 11.35 Rolnicze rozmowy. 12.05 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 17 VII** — 14.55 Program dnia. 14.30 Mały — pol. film fab. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie. 17.30 Dom i my. 17.45 Cioteczna babunia — odc. serialu. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. Symfonia Praska Jana Gudmundssona. 21.55 Camerata. 22.05 Dziennik. 22.20—22.50 Spotkanie z Afganistanem.

**Wtorek 18 VII** — 14.20 Program dnia. 14.25 Szkice węglem — film fab. pol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Tel. Mł. 17.10 Ludzie uparci. 17.55 Interstudio. 18.25 Świat, który nie może zaginąć. 18.50 Radzimy rolnikom 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Na skraju lasu — czeski film fab. 22.05 Świadkowie. 22.25 Dziennik. 22.40—23.10 Śledztwo zostało wznowione.

**Środa 19 VII** — 14.25 Program dnia. 14.30 Mąż swojej żony — pol. film fab. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kino najmłodszych. 17.00 Nie tylko dla kobiet. 17.30 Los. Małego Lotka. 17.45 Proces optimum. 18.15 W Starym Kinie. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Na wypadek nieszczęścia — franc. film fab. 22.35 Dziennik. 22.50—23.50 Godzina muzyczna.

**Czwartek 20 VII** — 14.15 Program dnia. 14.20 Czerwone i białe — pol. film fab. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie TDC. 17.30 Poligon. 17.55 Życiorysy współczesne. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Brygady Tygrysa — film TV franc. 21.30 Pegaz. 22.15—22.30 Dziennik.

**Piątek 21 VII** — 14.35 Program dnia. 14.40 Podróż w XXX-lecie — pol. film dok. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Teleferie dla najmłodszych. 16.55 Zwyczajny miesiąc — odc. serialu radz. 18.00 Tobie Ojczyzno. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Gra o wszystko — polski film TV. 21.40 Pieśni i piosenki z tamtych lat. 22.10 Teatr Małych Form. J. Iwaszkiewicz: Mapa pogody. 22.40 Dziennik. 22.50—0.20 Tamango — franc. film fab.




**Piątek 14 VII** — 8.50 Film fab. 20.30 Koncert finał. fest. „Białe noce".

**Sobota 15 VII** — 9.50 Film fab. I cz. 15.40 W świecie zwierząt. 16.40 Film anim. 17.00 P. nożna. Spartak—Dynamo (M). 22.15 Pr. estrad.

**Niedziela 16 VII** — 10.00 Film fab. II cz. 12.55 Koncert życzeń. 13.40 Panorama międzynar. 14.10 Film anim. 14.30 Klub film. 15.30 Koncert orkiestry dętej. 17.15 Spektakl.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).




**Białowieża** Godzilla contra Gigan — jap. 18—19. Żona Jana — fr. 20—21. Akcja Salamandra — rum. 22—23.

**Bielsk Podl.** Zdrajczyni — radz. 17. Handlarz bronią — wł. 18. Eglantine — fr. 19—20. Koronczarka — szwajc. 21—22. Wesela nie będzie — pol. 23.

**Czeremcha** Skarb — pol. 19—20. Taśmy prawdy — USA 22—23.

**Czyże** Przygody małpki Nuki — radz. Serpice — wł. 19—23.

**Gródek** Śmierć prezydenta — pol. 22—23.

**Hajnówka** Granica — pol. 17. Port lotniczy 77 — USA 18—20. Cenny depozyt — fr. 21—23.

**Michałowo** Omen — ang. 18—19. Ucieczka Mr Mc Kinleya — radz. — 20—21. Rebus — pol. 22—23.

**Mielnik** Ballada o dobrych ludziach — jug. 19. Człowiek z marmuru — pol. 22—23.

**Milejczyce** Gang Olsena wpada w szał — duń. Męskie sprawy — buł. 19—23.

**Narew** Intryga rodzinna — USA. Tato ja już wyszłam za mąż — buł. 19—23.

**Nurzec** Posag księżniczki Ralu — rum. 18—19. Wyspa skarbów — fr. 20—21. Granica — pol. 22—23.

**Orla** Wspaniały mężczyzna — buł. Pociąg w śniegu — jug. 19—23.

**Rajsk** Cień zbrodni — buł. Czy znacie Walerię M? — pol. 19—23.

 

# КАШТОЎНАСЦІ НАРОДНЫХ АБРАДАЎ

Ну і цікавыя ж былі тыя калядныя святы, калі вечарам у хату ўвальваўся натоўп малых жэўжыкаў, а то і старэйшых юнакоў з расчырванелымі ад марозу шчокамі і спяваў „Нова радасць стала...“ У хаце гасла лямпа, і над разнагалосным ды няўладжаным хорам пачынала ззяць каляровая і бліскучая звязда з палаючым агаркам свечкі ў сярэдзіне. Або тое вяселле, калі пасярэдзіне стала, перад маладой парай, красаваўся агромністы каравай, што за некалькі дзён да гэтага спяклі цёткі-каравайніцы. Стаяў ён, прыгажун, аздоблены кругам-сонейкам ясным, птахамі-гускамі ды віламі-рагачамі разгалістымі з кручанага цеста. А за гэтай пышнасцю, у самым покуце, на лаве, засланай аўчынай, сядзела маладая пара са звязанымі рукамі.


*Славутыя каравайніцы А. Стоцкая (справа) і Н. Харкевіч.*


*Здымак не ў моцы перадаць хараство караваяў з Лукі.*


*Калядная звязда з Лукі.*

— Маляўніча, нічога не скажаш, — заўважыць нехта. — Але ўсё гэта адышло, развеялася, перайшло ў свет красачнай легенды.

Так, гэта ўжо легенда, але яшчэ вельмі жывучая ў нашым раёне. Пераканальны доказ гэтаму — дзівоснае хараство і мноства прац, што паступілі на конкурс **„Народныя абрады ў паўночнаўсходняй Польшчы“**. Яго арганізатарамі былі Беластоцкае таварыства культуры, Акруговы музей, ЦэПэЛія і Ваяводскае аб'яднанне сельскагаспадарчых гурткоў. Праводзіўся ён у дзвюх дзялянках: 1) апісання каляндарных і сямейных абрадаў і 2) прадметаў і вырабаў, звязаных з гэтымі абрадамі.

Арганізатары паставілі перад конкурсам заданне разбудзіць зацікаўленне вырабамі і прадметамі з народных абрадаў, ажывіць народныя традыцыі і звычаі, падтрымліваць і папулярызаваць народнае мастацтва, павялічваць зборы Акруговага музея ў Беластоку.

Такое надта цікавае мерапрыемства спаткалася са зразуменнем сярод народных умельцаў і захавальнікаў мясцовых традыцый. У конкурсе прыняло ўдзел 102 асобы, у асноўным з Беластоцкага ваяводства. Яны падрыхтавалі 696 самых разнастайных экспанатаў. Каштоўнасць іх падкрэсліла колькасць узнагародаў, было іх аж 53.

Сярод апісанняў каляндарных і сямейных абрадаў першую ўзнагароду атрымала праца **Эльжбеты Данішэўскай** з Кнышына, дзве трэція **Меланіі Бужынскай** з Ясвілаў і **Якуба Антонюка** з Дабжынева.

Асабліва многа было ўзнагарод за прадметы і вырабы, звязаныя з народнымі каляндарнымі і сямейнымі абрадамі. У ліку іх ёсць значная колькасць экспанатаў з усходняй Беласточчыны. Калядная звязда **Яна Харкевіча, Арсенія Харкевіча і Мікалая Стоцкага** з вёскі Лука здабыла першую ўзнагароду, таксама першую ўзнагароду атрымаў вясельны каравай, што спякла на конкурс **Анна Стоцкая** з Лукі, другія ўзнагароды здабылі каравaі **Надзеі Харкевіч** з Лукі і **Любы Мантур** з Баратынца Рускага, першыя ўзнагароды за ўзорыстыя каляровыя велікодныя яйкі атрымалі **Міраслава Кавальская** з Баратынца Рускага і **Марыя Кавальчук** з Машчонай Панскай, а таксама **Надзея Дацэвіч** з Беластока. Узнагароды атрымалі: трашчотка **Уладзіміра Наўмюка** з Канюкоў, заслонік на іконы **Марыі Іванюк** з Макаўкі і ручнік **Анны Іванюк** з Беластока.


*Я. Харкевіч (злева) і М. Стоцкі — лаўрэаты першай узнагароды за калядную звязду.*

Знаёмячыся з узнагароджанымі працамі і экспанатамі, выстаўку якіх арганізаваў Акруговы музей, і творцы і наведвальнікі захапляліся майстэрствам іх выканання. Па іх, як па кнізе, можна было прачытаць і ўвачавідкі прадставіць вераванні, спадзяванні і імкненні нашых продкаў. Цяжкое і беднае было іх жыццё. Але і тады, перамагаючы нястачы і розныя перашкоды, вельмі яскрава выяўлялася натуральнае імкненне простага працоўнага чалавека да ўсяго лепшага, дасканальшага і прыгажэйшага ў яго жыцці. У гэтых рэчах выявілася таксама народная самабытнасць і нацыянальная акрэсленасць. А ўсё яно мае для нас непрамінаючую каштоўнасць і яго трэба захоўваць і развіваць.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# БАРТНІКІ

жыць жа даводзілася тут толькі са свайго загона, бо прамысловасць у гэтым глухім куточку была прадстаўлена толькі двума воднымі млынамі: адзін на рэчцы Валкушанцы, другі на яе прытоку — Марушы. У абодвух малолі і вальцавалі муку, дралі крупу і „фалявалі“ сукно, прытым у млыне на Марушы быў фолюш „на таўкачы“, больш устарэлы, даваў ён горшы выраб, затое ў млыне на Валкушанцы фолюш быў „на пранікі“. З-пад яго выходзіла надта роўнае і гладкае сукно. Абодва млыны знішчылі першая і другая сусветныя войны. Астаўся пасля іх толькі ўспамін у назве ўрочышча „Млынок“.

У пошуках сродкаў да жыцця, а мо і шчасця, адразу пасля настання „слабоды“, г.зн. пасля знясення прыгонніцтва ў 1862 г., многія маладыя бартнічане пачалі падавацца ў Амерыку. Выязджалі нелегальна: за 100 рублёў агент патаемна ноччу праводзіў юнака цераз руска-нямецкую граніцу ва ўсходнюю Прусію, там іншы агент перапраўляў яго ў Кенігсберг, ладаваў у трум парахода і праз некалькі месяцаў хлапец апынаўся ў Новым Свеце. Замест прыволля і райскага жыцця, чакалі яго там нястачы і цяжкая праца, пакуль неяк дайшоў да людзей. Але ж і на бацькаўшчыне не было з чаго жыць. Тым больш, што ніводная вайна не абмінула гэтай мясцовасці.

Як прыгадаў мне **Станіслаў Дадура** з 1899 года нараджэння, напрадвесні 1915 года тут разгарэлася кровапралітная бітва паміж рускай арміяй і акружыўшымі яе нямецкімі войскамі. Рускія спрабавалі прарвацца ў напрамку Гродна, але засеўшыя на навакольных пагорках, у пералесках і ў самым сяле немцы секлі іх з кулямётаў, а потым сустрэлі ў штыкі. Рускім не ўдалося прабіцца праз ланцуг нямецкага акружэння, амаль усе яны тут палеглі, а было іх сотні. Пахавальныя атрады мелі страшэнна многа работы, заграбалі пабітых абы-як і абы-дзе. Навесну сяляне плугамі выворвалі іх целы... Пашанцавала толькі двум палкам казакоў, іх узяўся правесці цераз топелі і нетры ракі Бебжы селянін Адам Несцер з суседняй вёскі Волкуш. Ён адмарозіў пры гэтым сабе ногі і на ўсё жыццё астаўся калекам, але выратаваў ад смерці каля 6 тысяч казакоў.

У часе апошняй вайны ў Бартнікі часта наведваліся за жыўнасцю і звесткамі пра гітлераўцаў савецкія партызаны, якія мелі сваю базу ва ўрочышчы **Масткі** ў Аўгустоўскай пушчы. Яшчэ і цяпер захаваліся там сляды ад іх зямлянак.

Цяпер Бартнікі жывуць спакойным, працавітым жыццём. Адсюль выйшла шэраг закончыўшых вышэйшыя школы людзей. Між іншым, толькі з адной сям'і Ткачукоў аж чатыры асобы сталі настаўнікамі. Многія закончылі розныя прафесіянальныя сярэднія школы. Усе яны, асабліва дзяўчаты, пакінулі сяло. Дзіўна, але больш улюбёнымі ў родныя мясціны аказваюцца тут хлопцы, яны не надта ахвотна выязджаюць у свет. Але маюць вялікія клопаты з жаніцьбай — няма дзяўчат.

Усе з 90 гаспадарак, апрача вельмі стараннай апрацоўкі зямлі і гадоўлі, займаюцца вырошчваннем тытуню. З паўгектаровай плантацыі гэтай расліны атрымоўваюць у год 100 і болей тысяч злотых чыстага даходу. Праўда, працы пры гэтым маюць вельмі многа. Даход у асноўным ідзе на сельскагаспадарчыя машыны (сеялкі, касілкі, трактары і г.д.), хатняе абсталяванне (тэлевізары, халадзільнікі і інш.) і будаўніцтва. Тут амаль усе дахі — хатаў, хлявоў, клуняў, нават хлеўчыкаў — пакрыты дарагой цынкавай бляхай. У вёсцы ёсць школа, электрычнае святло, паўстанак ПКСу, крама, тэлефон, нядрэнныя дарогі. Ну і захавалася памяць аб колішніх заснавальніках Бартнікаў: яшчэ нядаўна тутэйшыя пчаляры ў сваіх пасеках ставілі вуллі, выдзеўбаныя з аграмадных сасновых калодаў.

**Мікалай Гайдук**

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ГАЙНАЎСКІЯ ЦЭНТРЫ

ГС у Гайнаўцы вядзе два цэнтры „Сучасная гаспадыня“ — у Чыжах і Новым Беразове. Яны арганізуюць кулінарныя паказы. У іх можна пазычыць значную колькасць кухоннага посуду і настольнай сервіроўкі на вяселле або хрэсьбіны, а таксама аддаць брудную вопратку ў хімчыстку. Летам яны арганізуюць дзяцінцы.

ГСаўскія клубы селяніна дзейнічаюць у Дубінах, Новым Беразове, Махнатым, Чыжах і Клейніках. Усе маюць тэлевізары. Клуб у Новым Беразове мае нават каляровы тэлевізар. Найпрыгажэйшыя клубы ў Новым Беразове (у пабудаваным грамадскай працай будынку) і ў Дубінах у будынку пасля капітальнага рамонту. У Клейніках клуб будзе пераведзены ў памяшканні стражацкай рамізы, якая неўзабаве будзе перададзена ў карыстанне.

Найбольш актыўную і цікавую культурную дзейнасць вядуць клубы ў Новым Беразове і Дубінах.

У мінулым годзе клуб селяніна ў Новым Беразове ўдзельнічаў у конкурсе культурнай актыўнасці вясковых асяроддзяў і заняў трэцяе месца ў ваяводстве і ва ўзнагароду атрымаў 100 тысяч злотых. У клубе адбываюцца сустрэчы з цікавымі людзьмі, моладзь вядзе хроніку сваёй вёскі, арганізуе танцавальныя вечарыны. Ад пачатку існавання гэтай культурнай установы яе дзейнасцю кіруе Зіна Швед. Яе працу на культурнай ніве высока цэніць кіраўніцтва ГСу ў Гайнаўцы.

### МАДЭРНІЗАЦЫЯ

Гмінная спулдзельня „Самапомач хлопска“ ў Гайнаўцы сёлета мадэрнізуе мяшальню кармоў коштам 10 мільёнаў злотых. Яна прадукуе дзесяць асартыментаў розных кармоў для парасят і свінаматак, куранят і курэй, для цялят і буйнай рагатай жывёлы. 12 500 тон у год, на 65,8 млн злотых. Пасля мадэрнізацыі мяшальня кармоў павялічыць сваю прадукцыю ўдвая. У ёй будзе працаваць каля 40 чалавек (дагэтуль працавала 29).

У бліжэйшыя гады гайнаўскі ГС пабудуе збожжавыя склады ў Гайнаўцы і Чыжыках, а таксама пляцоўку для перахоўвання вугалю і коксу ў Гайнаўцы.

### НАЙАКТЫЎНЕЙШЫЯ

У конкурсе на найбольш актыўны вясковы клуб у Беластоцкім ваяводстве першынство заваяваў клуб прэсы і кніжкі „Рух“ у Старой Камёнцы (гміна Саколка), другое месца заняў клуб „Рух“ у Саколі Беластоцкім (гміна Міхалова), а трэцяе — клуб селяніна ў Малявічах Дольных каля Саколкі і клуб „Рух“ у Крушыне ў гміне Крыпна.

Конкурсная камісія прызнала грашовыя ўзнагароды для вядучых культурных цэнтраў і індывідуальныя ўзнагароды кіраўнікам найлепшых клубаў і членам грамадскіх саветаў у клубах.

(яц)



 



*Возера Гарбач.*

# МІХАЛОЎСКАЕ ЗОЛАТА

**(Працяг са стар. 1)**

дзейнасць, вядома, прыносіць няўхільныя шкоды прыродзе і ад гэтага, на жаль, няма ўклону. Аднак мы ніколі не можам аддаць на затрату возера Гарбач і атуляючага яго запаведніка! Гэта ж жамчужына прыроды, красамоўная кніга па гісторыі зямлі, якую для нас і для наступных пакаленняў аставіла прырода.

І таму за выратаванне ад прамысловай смерці возера Гарбач змагаўся яшчэ слаўнай памяці прафесар Славінскі, а цяпер з гэтай справай звязваюць свой аўтарытэт многія вучоныя нашай краіны.

Перш за ўсё неабходна правесці тут аб'ектыўныя, навуковыя доследы ўплыву эксплуатацыі суседняга тарфяніка на стан вады ў возеры. Такія доследы прадпрыемства ў Імшары мела правесці на працягу 2 мінулых гадоў і... не правяло. Адначасова з назіранняў ваяводскага кансерватара прыроды вынікае, што адводненне гэтага тарфяніка давяло да памяншэння глыбіні возера Гарбач. Яно пачало зарастаць.

— У чэрвені і ліпені мінулага года, — сцвярджае ён, — да берагоў возера нельга было дабрацца, а сёння...

Сёння дайшлі мы туды ў летніх туфлях. Стаім і захапляемся гэтай жамчужынай прыроды. Паветра чыстае, насычанае пахам багна, імху, баравіны і бярозы ды ўсяго іншага, што тут расце і нас акружае. Навокал цішыня і спеў птушак. Толькі здалёк далятае да нас грукат машын, якія рыхтуюць станкі для паскоранай, аўтаматызаванай здабычы торфу.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*На тарфянік у Імшары ўвайшла магутная тэхніка. Рыхтуюцца тут да паскоранай здабычы торфу.*

# ПРАЦАВІТАЯ „Сучасная гаспадыня”

Актыўна працуе цэнтр „Сучасная гаспадыня“ ў Васількове, дзейнасцю якога кіруе А. Шчэсік. Гаспадыні ахвотна карыстаюць з пазычальні кухоннага посуду і настольнай сервіроўкі. Нядаўна была падсумавана дзейнасць гэтага цэнтра за перыяд ад лістапада мінулага года да 15 чэрвеня бягучага года. Паводле падлікаў, цэнтр арганізаваў 37 паказаў з галіны рацыянальнага харчавання і вёў кулінарны курс у Рыбніках, які закончыла больш 20 асоб. З вялікім поспехам праходзілі заняткі ў рамках школы здароўя. Удзельніцы іх здабылі многа ведаў, як берагчы здароўе і дбаць пра асабістую гігіену. У пачатку гэтага года 15 жанчын закончыла кравецкі курс.

Цэнтр „Сучасная гаспадыня“ арганізаваў конкурсы на тэмы харчавой гаспадаркі і пад загалоўкам „Айчына нашых сяброў“, у якіх удзельнічала школьная моладзь. Пераможцы атрымалі рэчавыя ўзнагароды. Пасля ўдзельнічалі ў ваяводскіх элімінацыях і занялі добрыя месцы.

Васількоўскі цэнтр наладжвае таксама ўрачыстыя святкаванні з нагоды: Міжнароднага дня дзіцяці, Міжнароднага жаночага дня, Дня маці, 1 Мая, Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і іншых. **(ця)**

## М. ШАХОВІЧ — З народных гаворак

**жыдуовка** — маленькі жоўценькі грыб, якога інакш называюць пліскай. Гляньтэ, якіх файных жыдуовок прынюос. Чом ты жыдуовок нэ бэрэш? Бэры жыдуовкі, добры.

**коміна** — павісшая над дудою шапка, праз якую выходзіць дым. Гэта тое самае, што ў Орлі называюць **бандураю**, а ў ваколіцах Бельска **дудою**. Прынэсі гліны, там на пудвуорку в корыті розроблена стоіт, і коміну позамазуй, а то сыплецця. Нэ чыэпляйся на коміні, бо обваліш.

**ламач** — прылада для ламання высушаных канапляных сцяблін. Нагадвае яна сабой цёрніцу, толькі што не з пяццю, а з трыма зубамі. Вытягні з полуовніка ламач, то колопні зламлю, бо вжэ высохлі. Нэ ляскай бэз дай прычыны ламачом, поб'еш. Замісь лазіті голову задэршы, то взяв бы ламача поладів, а то пуднуошка пэнкла.

**п'явка** — шпілька, якою прышпільвалі валасы, каб не рассыпаліся. Возьмі волосы п'явочкою прышпілі, то нэ будут так у вуочы лiезті. Дай мне одну п'явку.

**стуойка** — гэта тыя людзі, якія не былі запрошаны на вяселле, а прыйшлі пад вакно або ў хату (у залежнасці ад звычаяў) паглядзець, як яно праходзіць. А ты, Манько, выбіраесся на стуойку? А в нас то стуойка в хаті, а нэ пуд окном.

*(Клейнікі, гміна Чыжы)*

# АСФАЛЬТ

Яшчэ два гады таму назад жыхары Кожына былі зусім адрэзаны ад камунікацыйных ліній. Аддзяляла іх ад аўтобуснага прыпынку пяць-шэсць кіламетраў. Непагода, макрэча, а ў горад часамі даехаць трэба. Але дзякуючы старанням жыхароў і зразуменню з боку дырэкцыі ПКСу і мясцовых гмінных улад, быў пракладзены аўтобусны шлях Бельск Падляшскі — Пасынкі — Кожына — Плёскі. Было гэта вялікае аблягчэнне як аўтобуснай лініі Бельск — Нараў, так і жыхарам Кожына ды Зубава. Зубаўляне ж таксама мелі не менш як чатыры кіламетры да бліжэйшага аўтобуснага прыпынку. А ў апошні час пралажылі з Плёсак амаль да самай шашы, што з Бельска ў Нараў, асфальт, прадаўжаючы адначасова аўтобусную лінію аж да Беластока. Так што жыхары Пасынак, Сакоў, Зубава, Кожына і многіх іншых навакольных вёсак маюць непасрэднае спалучэнне з ваяводскім горадам.

(мш)

## ТАК БЫВАЕ...

### ЗАБІЛАСЯ

Антаніна Ароўская, каб мець моцнае здароўе, адносілася да яго з вялікай увагай. Калі што забаліць, адразу наведвала паліклініку і ўсе недамогі ў здароўі ліквідавала ў зародышы. Зубы ў яе, як мала ў каго, заўсёды былі здбаныя. Яна не чакала ніводнага дня, лячыла іх, пламбавала, ліквідавала каменні. Аднойчы пачула тупыя болі ў грудзях, адразу патрабавала, каб зрабілі ёй электракардыяграму. А ўжо ў падрыхтоўцы яды была яна такая ўважная, быццам дыэтэтычка, ведала, што можа зашкодзіць, а што карыснае для арганізма. Часам у крайнасць нават пападала, ядучы толькі прадукты, спрыяючыя здароўю.

Месяц таму назад пачала адчуваць болі страўніка. Па яе просьбе лекар накіраваў яе ў бальніцу. Зрабілі аналізы і пачалі лячыць. Паколькі не было там нічога грознага, праз 10 дзён яе мелі выпісаць дамоў. І вось у перадапошні дзень яе пабыўкі ў бальніцы здарыўся няшчасны выпадак. Перад абедам некаторыя пацыенты былі на балконе. Адны ігралі ў карты, другія ў шахматы. І вось адзін з іх раптоўна абсунуўся на крэсле. „Хутчэй лекара клічце“, — крыкнуў нехта. Неспакойная мітусня на балконе данеслася ў суседнія палаты. На калідор выбеглі хворыя. І Антаніна Ароўская выбегла. Стаіць яна каля сходаў і бачыць, як нясуць з балкона на насілках няшчасніка.

— Адхіліцеся, дайце прайсці! — уголас сказала медсястра.

І пачалі хворыя цясніцца, робячы праход.

І Антаніна адступіла крок назад. А крок назад была ўжо лесвіца. Упала яна і ўдарылася патыліцай. Нават не войкнула. Забілася! Прыйшла ў бальніцу па здароўе, а знайшла тут смерць. А той, каго неслі на насілках, праз нейкі час прыйшоў у прытомнасць, адчувае сябе ўжо добра, хаця і далей шастае сваім здароўем. **(мс)**




У Грабаўцы вялікі попыт на віно. Кліентаў у краме, як ніколі. Бяда, што тут жа, за крамай, віно выліваецца з другога боку кліента. Аж дыхаць цяжка. Прадаўшчык моліць кліентаў, каб выбралі іншае месца на пойку. Але зразумення ў іх не сустракае. **П. Д.**

# Дзень год корміць

Паводле дадзеных Дэмаграфічнага зборніка Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, да канца XX стагоддзя лічба людзей на Зямлі дасягне 5 мільярдаў 470 мільёнаў. Адразу паўстае пытанне, ці зямля можа накарміць такую колькасць людзей? Над гэтай праблемай думаюць ужо дзесяткі гадоў многія спецыялісты з розных галін навукі. Прыхільнікі даўно аджыўшай тэорыі Мальтуса ў сваіх вывадах па гэтаму поваду абапіраюцца на „страшныя“ лічбы: усяго 45 мільёнаў квадратных кіламетраў сухапуцця прыгодны для сельскагаспадарчай апрацоўкі. Яны забываюцца пры гэтым адзначыць, што толькі 10 працэнтаў паверхні апрацоўваецца ў цяперашнім часе. Англійскі географ Л. Стэмп падлічыў, што нават пры сучасных метадах апрацоўкі зямлі „страшная“ лічба поўнасцю забяспечвае існаванне з захаваннем нармальных норм харчавання для 10 мільёнаў людзей. А такой лічбы насельніцтва на Зямлі не будзе ў хуткім часе.

Але тут сапраўды ёсць некалькі „але“. Па-першае, у цяперашні час людзі не выкарыстоўваюць прадуктыўна глебу. Дастаткова сказаць, што сярэднесвятовы плён цяпер у тры разы меншы, чым максімальна атрымліваемы ў той жа час у развітых гаспадарча краінах. Але і максімальныя плёны, паводле спецыялістаў, могуць быць большыя ў 5-10 разоў.

Па-другое, людзі не навучыліся яшчэ добра, па-гаспадарску выкарыстоўваць усе дары зямлі. Чатыры пятыя ўсёй раслiннай масы заворваецца зноў у глебу або спальваецца толькі таму, што чалавек не навучыўся яе перапрацоўваць.

Па-трэцяе, жывёла, з'ядаючы расліны, перапрацоўвае ўсяго толькі 20 працэнтаў корму на прадукты, патрэбныя чалавеку.

Па-чацвертае, зямля ўсё яшчэ занята ў асноўным дзікай раслiннасцю, а з соцень тысяч раслiнных гатункаў чалавек выкарыстоўвае ўсяго 2 тысячы.

Спіс прыкладаў можна прадаўжаць далей, але і так вядома: наша зямля можа пракарміць усіх яе жыхароў.

Аднак, страшная праўда нашага стагоддзя заключаецца ў тым, што 2/3 насельніцтва эканамічна адсталых краін не атрымлівае патрэбнай колькасці прадуктаў харчавання.

Навуковыя доследы паказалі, што норма харчавання, патрэбная ў сярэднім на аднаго жыхара, павінна раўняцца 3050 калорый. Жыхар Індыі атрымлівае 1590 калорый, Бірмы — 1990 калорый, а сярод насельніцтва Злучаных Штатаў Амерыкі 10% людзей патрабляе зусім непатрэбна 8800 калорый штодзённа — амаль у тры разы больш ад нармальнай фізіялагічнай нормы.

Шляхоў да забеспячэння ўсяго насельніцтва Зямлі прадуктамі харчавання многа.

Чалавек здаўна марыў аб тым, каб выгадаваць два каласы там, дзе раней рос адзін. Гэта зусім магчыма. Навука можа ўжо поўнасцю забяспечыць сельскую гаспадарку высокагатунковым сеўным матэрыялам, а хімічная прамысловасць — мінеральнымі ўгнаеннямі, новыя адкрыцці хімічнай навукі даюць магчымасць поўнасцю знішчыць раслiнных шкоднікаў. Праўда, часта можна яшчэ сустрэцца з фактамі, калі хімічныя стымулятары ўзросту патрэбнай расліны не ідуць у пары з узростам плёнаў гэтай жа расліны.

Чалавек даўно імкнецца атрымаць штучны бялок, тлушч, цукар і крухмал. Але пакуль што няма магчымасці ў прамысловым маштабе рабіць тое, што робіць расліна: выкарыстоўваючы сонечную энергію, сінтэзаваць бялок і іншыя вельмі складаныя арганічныя элементы. Гэта абазначае, што трэба ісці іншым шляхам: павялічыць колькасць бялка ў раслінах і гэтым самым паляпшаць іх харчавыя ўласцівасці.

„Дзень год корміць“ — гаворыць старая народная прымаўка. Колькі ў гэтым праўды?

Вытвараючы сельскагаспадарчыя прадукты, чалавек сустракаецца з жывой раслінай, звязанай тысячамі нітак з глебай, паветрам, цяплом, вільгаццю, суседнімі раслінамі і іншымі фактарамі акружаючага асяроддзя. Усё тут узаемна звязана, усё працякае згодна з аб'ектыўнымі законамі прыроды, згодна з вызначанымі тэрмінамі. Не ўзарэш або не забарануеш глебу ў свой час, пачакаеш два-тры дні з сяўбой, зборам плёнаў — гэта значыць, што страціш на плёнах, створыш магчымасць узыйсці пустазеллю, зменшыш вільгаць у глебе, паможаш коласу высыпацца.

Расліна карысна патрабляе пры фотасінтэзе малую частку сонечнай энергіі. Як бы яна не імкнулася павялічыць паверхню сваіх лістоў, ловячых сонечныя промні, яна не можа „перапрацоў-



*Янка Крупа вядзе конкурс ведаў у галіне супрацьпажарнай бяспекі.*

# ФЭСТ у Гуранах

(Працяг са стар. 1)

беластоцкія „Каласкі“, на гэты раз вельмі некамплектныя, а затым — самадзейнікі з Гарадка. Янка Крупа і Ніна Мушынская папаўнялі песні сатырычнымі маналогамі і куплетамі, якія выклікалі самы жывы водгук у публікі, бо іх аўтары ўмела дастасавалі змест да штодзённых спраў нашых сялян. У перапынку прадстаўнік ваяводскага праўлення пажарнікаў-добраахвотнікаў **Рышард Гратоўскі** расклаўся з каштоўнымі ўзнагародамі для ўдзельнікаў конкурсу на веды ў галіне супрацьпажарнай бяспекі.

І тады абарвалася хмара. Прыйшлося хавацца ў гасцінны дом культуры, дзе бібліятэка, кіёск „Руху“, пакойчык для гульняў у пінг-понг, глядзельная зала з каляровым тэлевізарам і маленькай сцэнкай, на якой дзіцячы драматычны калектыў даволі часта выступае з пастаноўкамі казак. Маленькая танцорка, трохкласніца Агнешка Станкевіч, кажа мне, што яна ў гэтым годзе выступала ўжо ў інсцэніроўках „Свінапас“ і „Новая вопратка караля“.

На сценах гэтага дома культуры амаль няма пустых месц. Вельмі многа тут самых розных дэкаратыўных элементаў вырабу мясцовых умельцаў, плакаты, насценгазеты. Адна з іх мае загаловак: **„Вершалін — праўда і легенда“**. Гэта пра славутага „прарока“ Ілью Грыбаўскага.

Каб запоўніць вымушаны перапынак, Данута Пратасевіч, кіраўнічка крынкаўскага асяродка сучаснай гаспадыні, прапануе прысутным папрабаваць кефір і іншыя малочныя вырабы мясцовага паходжання. Затым пажарнікі заканчваюць свой конкурс і зноў чарга на гарадоцкі калектыў. Ён аднак не можа змясціцца на маленькай сцэне, ды і гледачоў намнога больш, чымсьці месц у зале. Даводзіцца зноў вяртацца на танцавальную пляцоўку, а перад дажджом хавацца пад парасонамі. Спявачкі аднак не наракаюць, не пакідаюць сцэну, а прыклад дае найстарэйшая з іх — Ніна Мушынская, якая нядаўна вярнулася з чарговай пабыўкі ў бальніцы...

І так наперакор надвор'ю ідзе гэты фэст — свята радасці і здзяйсненняў, фэст, які БГКТ наладзіла з нагоды 60-ай гадавіны ўзнікнення БССР і 60-годдзя адраджэння Польскай дзяржаўнасці.

**В. Рудчык**
Фота аўтара

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*СЯМЕЙНАЯ*




*Ой, карала мэне мацi, карала —*
*за п'яніцу-нідбайніцу аддала,*
*за п'яніцу-нідбайніцу аддала.*
*А п'яніца-нідбайніца ў карчме п'е,*
*а як прыдзе дадоманьку, жонку б'е,*
*а як прыдзе дадоманьку, жонку б'е.*
*Ой, прыехаў мой брато́чак са Львова,*
*пытаецца: — П'янічэнько чы дома?*
*пытаецца: — П'янічэнько чы дома?*
*Ой, пацiху, мой браточку, гавары,*
*бо п'яніца-нідбайніца ў каморы,*
*бо п'яніца-нідбайніца ў каморы.*
*Як ты тую п'янічэньку разбудзіш,*
*то ты маю галованьку натрудзіш,*
*то ты маю галованьку натрудзіш.*

*— Ой, прывыкай, мая сёстро, прывыкай,*
*да суседа праз акенцо ўцікай,*
*да суседа праз акенцо ўцікай.*
*— Ой, ніраз я, мой браточку, цікала,*
*пад чужою стрэшэнькаю дрыжала,*
*пад чужою стрэшэнькаю дрыжала.*
*— Ой, што жэ ты, мая сёстра, думала,*
*як на тую гібку кладку ступала,*
*як на тую гібку кладку ступала?*
*— Ой, думала, мой браточку, парайду,*
*но за гэту п'янічэньку ні пайду,*
*но за гэту п'янічэньку ні пайду.*
*Ой, парайшла, мой браточку, парайшла,*
*сваю горку долю тут знайшла,*
*сваю горку долю тут знайшла.*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.



*На кірмашы.*

# СУСТРЭЧА З ЛЕТАМ У БЕЛАВЕЖЫ

Урачыста пачалося лета ў Белавежы. Белавежскую пушчу ў гэтым годзе выбрала Польскае радыё на першую радыёперадачу „Лета з радыёпрыёмнікам“.

21 чэрвеня з урочышча Старая Белавежа, дзе змяшчаўся радыёцэнтр першай перадачы, паплылі ў свет спевы пушчанскіх птушак, шум старых дрэў. Тут жа сыгралі на паляўнічых трубках прывітальны гімн Вінцук Нярoба і Віктар Вашкевіч з Ляснога тэхнікума. Затым радыёслухачы пачулі інтэрв'ю з дырэктарам Белавежскага нацыянальнага парку мгр інж. Станіславам Куявякам на тэму пушчанскіх назваў. Аб пушчанскім салаўі расказваў др Станіслаў Бароўскі. Былі таксама конкурсы распазнавання птушыных спеваў і паляўнічых сігналаў. Радыёперадачы прыдавала бляску вядомая польская актрыса Барбара Крафтуўна.

Для прыбыўшых у гэты дзень на Старую Белавежу турыстаў і жыхароў навакольных мясцовасцей выступленні давалі шматлікія самадзейныя ансамблі. З ахвотаю слухалі ўсе капелу Уладзіміра Лушчыкевіча, боцькаўскіх „Клекацякаў“ ці бельскія „Пшэпюркі“ і „Ютшэнку“.

Ды не толькі Польскае радыё вітала

(Працяг на стар. 7)

вацъ“ больш, чым трэба. Таму пакуль што няма магчымасці змяніць вельмі складаны працэс фотасінтэзу. А гэта абазначае, што і ў будучым трэба будзе гадаваць патрэбныя расліны на вялікіх плошчах. У выніку ўсяго гэтага задача заключаецца ў тым, каб уся праца, патрэбная для гадоўлі раслін у найлепшых умовах, вялася далей на вялікіх плошчах і ў адпаведныя тэрміны.

У апошнім дзесяцігоддзі ўдалося заўважыць некалькі важных змен у спосабах і метадах пераворвання глебы, скошвання раслінных сцяблоў, малацьбы і г.д. Некалькі старых метадаў безнадзейна ўстарэла. Прыгледзьцеся, напрыклад, як працуе хэдар — рэжучы апарат камбайна. Ён яшчэ працуе па ўзору машынкі цырульніка. Вядома, калі цырульнік стараецца хутчэй пасоўваць машыну, яна не стрыжэ, а вырывае валасы. І няхай толькі канструктар павялічыць хуткасць камбайна, а ён адразу пачне працаваць, як цырульнік, а малацільны агрэгат камбайна працуе яшчэ больш па-старому, як цэп б'ючы па каласах. Так абмалочвалі збожжа тысячу гадоў таму назад. І вось вынік: з дзесяці конных сіл малацільны барабан выкарыстоўвае толькі адну. Нішчыцца збожжа, а гэта вядзе да пагаршэння пасеваў, да высеву большай яго колькасці і да страт.

У будучыні праца сельскагаспадарчых машын накіравана будзе да аднаго задання: хутка і без страт збіраць расліны і транспартаваць пад „страху“, дзе далей будуць адбывацца іншыя працы ў галіне перапрацоўкі пры поўнай аўтаматызацыі ўсіх працэсаў.

Шляхоў да павелічэння колькасці прадуктаў харчавання многа, і людзі, калі не браць пад увагу сацыяльна-палітычных прычын, ніколі не могуць галадаць.

Трэба яшчэ некалькі слоў прысвяціць марам і акіянам. Гэта яшчэ адна з магчымасцей выкарыстання марскога багацця, якім з'яўляюцца водарасці. З водарасляў ужо цяпер падрыхтоўваюць клей, лякарствы, аміяк і джэм, ёд, кандытарскія прадукты і марскі авёс для жывёлы, пластычныя масы, воск, паперу, спірт, ацэтон, воцатны квас і г.д. У сучасны момант 70 гатункаў водарасляў выкарыстоўвае чалавек. Напрыклад, на Гавайскіх астравах водарасці з'яўляюцца галоўным прадуктам харчавання, замяняючым гародніну. У Японіі іх з'ядаюць у год больш чым на 30 мільёнаў іенаў. У прыбярэжных абласцях Кітая водарасці адыгрываюць такое ж значэнне, як у нас бульба. А ўсё ж людзі яшчэ мала выкарыстоўваюць гэта багацце.

**мгр Антон Рудак**




**ЯКОЙ ЗАМОВАЙ...*)**

Верш модны. Без перапынкаў ляціць, як ракета ў космас. Канчаецца словам Купала. Кропкі няма. Гэта значыць, што верш незакончаны. Далейшы працяг, трэба здагадвацца, чытайце ў наступных календарах.

Чытаю. Цытую.

„Якой замовай я цябе выклікаў
якімі зёлкамі з ночы Купалы
выкарміў вусны твае прагавітыя.
за мала
за мала
за мала
досыць“

Што ж, як досыць, то досыць. Мне ўжо даходзіць да палавіны восьмага дзесятка. Я ўжо даўно плюнуў на гэтакае выкармліванне прагавітых вуснаў, а знайшоў карыснейшы занятак: карміць парсюкоў, бычкоў, нават кролікаў. Так што тэма не па мне, да крытыкі не бяруся, баюся недакладнасці. Але каб было справядліва, каб паэт не скрыўдзіўся (што Агнію вершам абдарыў, а мяне — не), дык калі ласка:

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Дзед яго быў гаспадар
І арэльшчык і бандар.
Час прыйшоў — і яго ўнуку
Шлях адкрыты у навуку.
Да навукі ўнук быў фат,
Адалеў нат дактарат,
Стаўся літаратам першым,
Гісторыкам, піша вершы.
Не пашла навука ў лес,
З баршча вылез — у бар ўлез,
З Баршчэўскага стаўся Барскі,
Па інерцыі, без ласкі.
Алесь Барскі, наш паэта,
Жыві нам многія лета!
Будзь сябром шырокіх мас
Беларусаў...

**Дзядзька Квас**

P.S. Шаноўная рэдакцыя, з выказваннямі аб рэшце аўтараў устрымоўваюся да вашага адказу. Не хочацца быць пустазвонам. Д. Квас.

*) *„Беларускі каляндар — 78“.*




Дарагое Сэрцайка, звяртаюся да цябе са сваёй нядоляй. Я сама з вёскі. Вырасла ў беднай сям'і, бо мама мая пачала хварэць, калі я была яшчэ ў пачатковай школе. На мяне, як на найстарэйшую, звалілася ўся работа, бо і бацька мой інвалід. І выйшла я замуж на гаспадарку, бо любіла працу на зямлі. Думала, будзе лягчэй мне цяпер жыць, а папала ў палон крыўды і здзекаў бацькоў майго мужа, а цёшча проста ненавідзіць мяне. Дакарае, што я з беднай сям'і, усяляк абзывае, па-зверску да мяне адносіцца. Калі я нарадзіла першае дзіця і вярнулася дамоў, яна мяне набіла за шклянку малака дзіцяці. Не дазваляла нават нагрэць вады, каб выкупаць дзіця. Цёшча, калі даведалася, што я ізноў цяжарная, не давала мне есці. Дзень і ноч я плакала. Працавала я вельмі цяжка, а праз тры месяцы перарвалася мая цяжарнасць. Цёшча не ведала, як цешыцца. Калі праз два гады нарадзілася другое дзіця і муж прывёз мяне з бальніцы, маці хадзіла злосная, казала, што мне і маім дзецям дык хлеб у майго бацькі. Не ведаю, як доўга хопіць мне яшчэ сілы і здароўя, каб зносіць гэтыя здзекі.

Надзя з Бельшчыны

Надзя! Невыносная твая сітуацыя і ў канцы можна сапраўды страціць здароўе і сілы. Трэба нейк вырвацца з гэтага пекла. Найлепш было б аддзяліцца ад зверскай цёшчы. А калі ўжо мусіце жыць разам, дык нейк трэба супакоіць агрэсіўную бабу. Нельга ж дапусціць, каб знішчыла яна вашу сям'ю. Думаю, твой муж, а яе дарослы ўжо сын, мае тут нейкае права. Яна ж яго нарадзіла, выгадавала. А маці ж — гэта найвярнейшы прыяцель свайго дзіцяці. Дзе ж сумленне яе, дзе ж мацярынскае сэрца?!

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мне снілася, што я іграю ў адну ігру. Трэба было ўмець іграць. Акрамя мяне ігралі яшчэ іншыя. На полцы ляжала многа кніжак. У кніжках былі грошы. Я перавярнула некалькі старонак і выйграла 300 злотых і, не памятаю, колькі дробных. Я спыталася ў адной пані, якая апекавалася гэтай ігрой, як можна выйграць, каб не прайграць. Яна мне растлумачыла. Там, дзе былі грошы, трэба выняць, а палажыць свае ў іншае месца. Гэтыя 300 зл., якія я ўзяла з кніжкі, палажыла я ў другое месца. Усіх разам выйграла 50 зл. Думаю сабе: малавата, і на гэтым прачнулася.

Галена

Астроне, мне снілася нядаўна, што ў нашай хаце завяліся клапы. Многа іх было, былі яны вялікія і напіўшыеся крыві. Ці гэты сон прадвяшчае дрэнны паварот у маіх справах?

Ніна

**Галена!** Нейкія непрыемнасці не абмінуць цябе (бо ты іграла ў гэту ігру). Можа гэта быць нейкая страта, а можа быць сварка з некім. Найбольш пэўнае, аднак, што будзеш мець клопаты з навукай. Аб гэтым сведчаць грошы, якія ляжалі ў кніжках.

**Ніна!** Твой сон абазначае, што ў тваім асяроддзі завяліся надакучлівыя, непаважныя асобы. Пастарайся іх пазбыцца!

**Астрон**




*Заказвалі: Аліна, Ірэна і Ян Аляксеюк, Ірэна Петрачук, Ірэна Лаўрэшук, Эля Гонта, Ярак Гонта, Галена Янюк, Аліна Шуецкая, Раман і Аля Хворась, Юрка Мельнік, Юрка Магрук з Гайнаўкі.*



*Лета над возерам.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж і жонка пасля шлюбу і ў часе супольнага жыцця купілі гаспадарку — 3 га і паставілі на ёй будынкі. Муж памёр у 1966 годзе, а на гаспадарцы аставалася жонка з малодшай дачкой. Старэйшая выйшла замуж за гаспадара ў той жа вёсцы. У 1973 годзе жонка атрымала ад павятовых улад акт уласнасці гаспадаркі. У наступным годзе яна памерла, пакідаючы завяшчанне, у якім запісала гаспадарку на малодшую дачку. Старэйшая дачка лічыць, што завяшчанне няважнае, бо гаспадарка з'яўлялася супольнай уласнасцю бацькі і маці, і таму яна павінна наследваць гаспадарку па бацьку нароўні з малодшай дачкой. Ці завяшчанне з'яўляецца важным?

АДКАЗ: Гаспадарка, купленая мужам і жонкай у часе супольнага жыцця, з'яўлялася іх супольнай уласнасцю, і старэйшая дачка магла дабівацца спадчыны па бацьку пасля яго смерці. Аднак у выніку адміністрацыйнай пастановы ўласнасць цэлай гаспадаркі перайшла на жонку. Калі старэйшая дачка лічыла гэту пастанову няправільнай, павінна была звярнуцца да ваяводскіх уладаў. Суды звязаны гэткай пастановай незалежна ад таго, ці яна згодна з законам вырашыла справу ўласнасці. Таму жонка мела права запісаць гаспадарку малодшай дачцы. Калі б нават адміністрацыйная пастанова была ўняважнена, завяшчанне ў частцы, якая належалася б толькі жонцы, асталося б важным.




## ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### ЗАПЯКАНКА З ЯЕЧАК

На 9 крутых яечак трэба ўзяць па смаку соль і перац (страва павінна быць пікантная), поўную лыжку пасечанай зялёнай пятрушкі, 3 немалыя цыбуліны, вялікую лыжку масла, 1/3 шклянкі смятаны і 1 свежае яечка.

На соус бярэм: 2 лыжкі памідорнага канцэнтрату, лыжку расліннага масла ці маргарыну, 3 булённыя косткі, 1,5 шклянкі кіпеня, чайную лыжачку змеленай папрыкі, 1 малую цыбульку, крыху цукру, лыжку мукі.

Цыбулю дробна нарэзаць, падрумяніць на масле. Абабраныя яечкі пасячы. Спалучыць яечкі з астуджанай цыбуляй, дадаць усё астатняе і добра вымяшаць на аднаалітую масу. Прадаўгаватую бляшку змазаць тлушчам і пасыпаць цёртай булкай. Палажыць у яе роўны пласт падрыхтаванай масы і ўставіць у гарачую духоўку. Запякаць мінут 20. За той час падрыхтаваць соус: дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць на тлушчы разам са змеленай папрыкай, дадаючы пад канец памідорны канцэнтрат. Дадаць муку і булённыя косткі, распушчаныя ў кіпені і, памешваючы, закіпяціць. Запраўіць па смаку цукрам, і, калі трэба, соллю. Зняць з агню. Калі запяканка будзе гатова, вылажыць яе на прадаўгаватую талерку, палажыць навокал бульбяное пюрэ (можна дадаць да яго жаўток — будзе тады прыгожы жоўты колер), пасыпанае зялёнай пятрушкай. Падаваць з соусам, якім страву будзем паліваць, можна дадаць таксама нейкую салату.

### БІТКІ З ЯЛАВІЧЫНЫ ПАД СМЯТАННЫМ СОУСАМ

На 25 дэкаў ялавічыны без касцей трэба ўзяць 20 дэкаў салоных селядцоў, 8 дэкаў сухой булкі, каля 3/4 шклянкі малака, каб намачыць булку, 1 вялікае яечка, 2 цыбуліны, лыжку масла, 5 дэкаў смальцу, 5 дэкаў мукі, палову чайнай лыжачкі перцу, соль па смаку, лаўровы лісток, 25 дэкаў кіслай смятаны, 2 булённыя косткі, 1,25 шклянкі вады, каб распусціць у ёй булённыя косткі, сцёртая на тарцы лімонная скурка.

З добра вымачаных селядцоў сцягнуць скуру, выняць з іх косці. Філе селядцоў прапусціць праз мясарубку разам з мясам і намочанай у малацэ і выціснутай булкай. Дадаць падсмажаную на масле дробна нарэзаную цыбулю, яечка, перац, і, калі трэба, соль. Добра размяшаць масу драўлянай лыжкай, зрабіць з яе 8 шарыкаў, памачаць іх у муку і падсмажыць на моцна разагрэтым тлушчы. Пераламыць у каструльку, заліць смятанай, змешанай з рэштай мукі, булёнам, прыправамі і сцёртай лімоннай скуркай. Накрыць і тушыць на слабым агні каля 20 мінут. Падаваць з бульбяным пюрэ ці клёцкамі і салатам.

**Гаспадыня**




Восьмага красавіка ў Румынію пайшлі караблі з немцамі: цеплаход „Альба", параход „Раманія" і „Герцаг Карл". У самую апошнюю мінуту, калі „Гейзерых" заканчваў пагрузку, у порце з'явіліся шэсць „тыграў".

Петры нават за галаву схапіўся. Куды іх грузіць? І толькі з вялікай цяжкасцю ўдалося знайсці для іх жалезную баржу.

Вечарам Петры загадаў усім пакінуць порт. У яго ўвайшоў атрад немцаў, на рукаве ў кожнага была нашыта пласцінка ў форме шчыта з надпісам „Крым-Кубань". Яны лічылі сябе выбранымі сярод выбраных, ганарыліся сваёй адданасцю фюрэру і тым, што рускія, як яны сцвярджалі, у палон іх не бралі, а расстрэльвалі на месцы. Гэта як бы ўзвышала іх над іншымі салдатамі.

Міша забег на хвілінку да дзяўчат паведаміць, што ў порт ён не вернецца і каб яны за яго не хваляваліся, ён знойдзе сабе сховішча.

Раніцай дзевятага красавіка газета „Молва" выйшла на абгортачнай паперы, меншага размеру, чым раней. У ёй была апублікавана аб'ява „баявога каменданта" Адэсы.

„У апошнія дні павялічыліся нападзенні цывільных асоб на асоб, якія належаць да нямецкіх і саюзных армій, — гаварылася ў ёй. — Таму забараняецца ўсім цывільным грамадзянам пакідаць свае кватэры.

Вокны павінны быць зачынены, дзверы таксама, але не на ключ.

Хто насуперак гэтаму з'явіцца на вуліцы або ў акне, або ля адчыненых варот, будзе без папярэджання расстраляны.

Гэта распараджэнне ўступае ў сілу сёння з 15 гадзіны дня".

— Што ж цяпер нам рабіць? — спытала Надзя, некалькі разоў уголас прачытаўшы аб'яву.

— А колькі цяпер часу?

— Каля дванаццаці.

— Я збегаю купіць хлеба! Раптам які-небудзь дзівак яшчэ гандлюе! — сказала Лена.

Калі яна выйшла, вуліца здалася ёй мёртвай. Напэўна, жыхары Адэсы з перасцярогі выканалі загад датэрмінова. Лена дабегла да вугла і вярнулася з пустымі рукамі. Дзівакі ў Адэсе перавяліся.

Каля трох гадзін ночы з дзевятага на дзесятае красавіка з боку порта пачуўся выбух.

— Пачалі! — сказала Лена.

Яны з Надзяй ляжалі побач на сваім ложку, у поўнай цемры — старанна закрытае акно не прапускала нават слабага начнога святла — і чуйна прыслухоўваліся.

Вось за акном прагрукатаў танк. Недзе пачулася аўтаматная чарга. Здалёк данесліся крыкі. Хрыпла вылаялася жанчына. І раптам новы ўдар! У акне зазвінелі шыбы.

— Страляюць ці бамбяць? — спытала Надзя.

— Самалётаў чамусьці не чуваць! Магчыма, падрываюць?

Надзя не вытрымала, устала і падышла да акна.

— Ленка, глядзі! Ракет колькі!..

Яна крыху адсунула фіранку, і на сцяне з'явіўся чырванаваты водбліск. Лена таксама кінулася да акна.

Над дахамі раз-пораз з'яўляліся ракеты — чырвоныя, быццам горад салютаваў пераможцам. З боку Пярэсыпі стралялі гарматы. І раптам яны пачулі свіст снарада, а потым недзе зусім блізка прагучаў выбух.

—Дзяўчаты! Страляюць! Ідзіце ў падвалы! — крыкнула ім з калідора Клаўдзія Фёдараўна.

Яны пачулі дзіцячы плач, у калідоры бразнулі ўваходныя дзверы, і ўсё сціхла.

Можа ім трэба звязацца са штабам? А што яны зараз могуць перадаць?

Чакаць — заўсёды, бадай, самае цяжкае. Значна лягчэй вырвацца на вуліцу, даць волю сваім пачуццям. Страляць!.. Страляць!.. Страляць!.. Але разведчыкаў прывучаюць да цішыні. Цяжка — маўчы, нясі ў сабе ўвесь цяжар гора і душэўнага болю. Табе хочацца дзейнічаць і здаецца, што настаў час, агледзься навокал, узваж старанна, хоць час адвёў табе на гэта іншы раз толькі імгненне, ці маеш ты права на рызыку?!.

Вось яны і сядзяць у цёмным пакоі, прыслухоўваюцца да страляніны за вокнамі і мяркуюць, на якіх вуліцах бой...

— Лена! Як па-твойму, узарвуць яны горад?

— Яны б ужо ўзарвалі. Цяпер у іх няма часу...

А раніцай дзяўчаты стаялі на Дзерыбасаўскай у густым натоўпе і разам з усімі махалі рукамі савецкаму танкісту, высокаму хударляваму хлопцу, які высунуўся з вежы танка. На бране яго трыццацьчацвёркі ляжалі аўтаматчыкі і перакідваліся з дзяўчатамі вясёлымі жартамі.

Адэса, яшчэ напярэдадні мёртвая, ужо зноў шумела, і шум яе быў падобны на рокат чарнаморскіх хваляў, якія весела беглі да берага.

Потым Лена і Надзя вярнуліся дамоў і звязаліся са штабам. Лялюшка павіншаваў іх і загадаў чакаць, калі за імі прыедзе машына.

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сустрэча з летам у Белавежы

(Працяг са стар. 5)

лета ў Белавежскай пушчы. Мерапрыемства пад назвай „Прывітанне лета" падрыхтавалі таксама белавежскі і гайнаўскі аддзелы ПТТК. У рэйдавае мястэчка, што ля Пагарэльцаў (і непадалёк старой Белавежы) 20 чэрвеня прыбыло пешшу ці на веласіпедах па вызначаных шляхах 214 чалавек. Арганізатары рэйду пачаставалі ўсіх гарохавым супам. Потым запаліўся касцёр і пачалася мастацкая частка паасобных рэйдавых атрадаў. На другі дзень (удзельнікі мерапрыемства начавалі ў мястэчку ў палатках), пасля ранішняга туалету і снедання, пачаліся рэкрэацыйныя гульні. На веласіпедным трэку, сярод дзяўчын трыумфавала Малгажата Карпінская, а сярод хлопцаў Лешэк Камінскі. Многа весялосці выклікаў конкурс гатавання кісялю. Найхутчэй і найлепш зварылі яго Багуслава Рурка супольна з Генрыкам Базылевічам. Калі мінулі гульнёвыя эмоцыі, удзельнікі рэйду адправіліся на Старую Белавежу, дзе мелі магчымасць паглядзець і паслухаць выступленні самадзейнікаў. Рэйд закончыўся зараз жа з поўдня. Усе ўдзельнікі атрымалі плакеткі, а найлепшыя атрады дыпломы і рэчавыя ўзнагароды. Мерапрыемствам кіраваў Васіль Скепка.

У самой жа Белавежы ў днях ад 20 да 22 чэрвеня працягваўся кірмаш пад лозунгам „Лета-78". У будках, якія былі расстаўлены на прыстанцыйнай плошчы, можна было купіць спажывецкія, тэкстыльныя, абутковыя, спартыўныя і шмат іншых прадуктаў уключна з марожаным і фэставымі цацкамі. У час кірмашу прадукаваліся самадзейныя ансамблі — вось хаця б панадворкавая капела з Васількова ці вакальна-інструментальная група „Кракусы". Адбыўся таксама паказ польскай моды. Вялікае зацікаўленне выклікала рэкамендацыя „Паланеза" — новай маркі польскага аўтамабіля. Многія затрымоўваліся пры палетку, дзе рэкамендавалася новае турысцкае абсталяванне. А той, хто захацеў пагуляць у палацовым парку, ля ўвахода ў гасцініцу „Іва" і ў канферэнц-зале гасцініцы мог паглядзець выстаўку магазінавага абсталявання і магазінавых сродкаў транспарту, хаця гэтая выстаўка была падрыхтавана з іншай нагоды — навуковага сімпозіума.

Усе гэтыя дні ў Белавежы, як па заказу, было сонечнае, цёплае надвор'е.

**П. Байко**

Фота аўтара



*Канат цягне каманда керамічнай фабрыкі з Ляўкова. Фота Я. Целушэцкага.*

## МАСАВАСЦЬ СПОРТу

Была нядзеля. Стаяла прыгожая сонечная пагода. У Нараўцы адчувалася асаблівае напружанне. Ля ўваходу на мясцовы стадыён заклік: „Вітаем удзельнікаў II гмінных спаборніцтваў працуючай моладзі!" Стадыён упрыгожаны і радыёфікаваны. Гучыць музыка. Сходзяцца людзі. З'яўляюцца спартсмены. Яны праводзяць сёння барацьбу на прыз I сакратара ГК ПАРП і начальніка гміны.

Арганізатарамі надта цікавага мерапрыемства былі: цэнтр рэкрэацыі і спорту, прафсаюзы, ЗСМП і ЛКС.

На плошчы стадыёна мы бачылі каманды надлясніцтва „Броўск" у Грушках, чыгуначнікаў з Семяноўкі, керамікаў са Старога Ляўкова, настаўнікаў зборнай гміннай школы і групу спартсменаў гміны. Пачатак адбыўся з поўным цырыманіялам. Агонь запаліў найлепшы спартсмен гміны Мікалай Павільч. Пасля афіцыйнай часткі пачалася барацьба. Жанчыны і мужчыны кідалі лётку, бегалі на 100 м, скакалі, ездзілі на веласіпедах. Барацьба была вострая, ніхто не хацеў быць горшым. Найбольшае зацікаўленне выклікала перацягванне ліны. Самымі моцнымі аказаліся чыгуначнікі з Семяноўкі.

У валейболе сярод жанчын найлепшымі былі настаўніцы з Нараўкі, а сярод мужчын чыгуначнікі з Семяноўкі. Прыз I сакратара заваявала мужчынская каманда гміны, а прыз начальніка гміны — жаночая каманда зборнай гміннай школы.

Узнагароду ВОСіР за валейбол атрымала жаночая каманда керамічнага завода ў Старым Ляўкове і мужчынская каманда гміны.

Шкада толькі, што не ўбачылі мы на гмінным стадыёне ў спаборніцтвах спартсменаў з ГСу і СКРу.

**А. З.**

## КНЫШЭВІЦКІ БАЛАГАН

У вёсцы Кнышэвічы ў Шудзялаўскай гміне ёсць крама, у якую бабы з навакольных вёсак прыносяць яйкі. І тут бяда, хоць танцуй! Валачэ баба кош яек тры кіламетры ў краму, а тут на ёй аб'ява: „Яек не купляем, бо няма скрынак". І што зрабіць? Дзявай куды хочаш. Клянуць бабы, ды кажуць: „Не будзем курэй гадаваць".

Давялося і мне завалачы кош яек, а крамарка кажа: „Не магу прыняць, няма дзе падзець, ужо два тыдні не забіраюць, а яйкі сохнуць, і я маю страту". І так яшчэ крамарка Богус Галіна спрытна пакручваецца сярод гэтых яек і розных тавараў у ц е с н а й краме, дзе фактычна немагчыма пакрунуцца.

Дарагая „Ніва", варта нават прыехаць у кнышэвіцкую краму, каб пабачыць, як гэта Галя мучыцца ў такой цеснаце, а ўсё ж чысціню і парадак вядзе, ды ветліва адносіцца да людзей. Яшчэ і так бывае, што прывозяць ёй не такія, як трэба, скрынкі на яйкі і Галя іх рамантуе, дапасоўвае.

Трэба, каб ГС у Крынках скончыў з гэтым балаганам і падумаў пра большае памяшканне на краму, так кажуць людзі. Праз такі балаган, я думаю, і ў Бабіках не хоча крама скупоўваць яек. Чаму малачарня ў Саколцы змагла зрабіць так, што калі людзі дастаўляюць больш малака, дык прыязджаюць у вёску два разы ў дзень па яго?

**Э. Ш.**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ДАРОГА ПАТРАБУЕ ЎВАГІ", „Ніва" № 25/1164 ад 18 чэрвеня 1978 года.**

**Адказвае: REJON DRÓG PUBLICZNYCH W BIELSKU PODLASKIM.**

Rejon Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim na podstawie art. 167 kpa i § 23 Uchwały nr 151 Rady Ministrów z dnia 30 lipca 1971 roku w sprawie organizacji, przyjmowania, rozpatrywania i załatwiania skarg i wniosków (Monitor Polski nr 41 poz. 260) w odpowiedzi na notatkę prasową z 25 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 18 czerwca br. informuje, że drogi na terenie gminy Narewka w bieżącym roku były kilkakrotnie profilowane równiarką. Wymagają one jednak ciągłej konserwacji z powodu dużego nasilenia ruchu zwłaszcza pojazdów samochodowych o dużym obciążeniu.

Przepust na drodze z Siemianówki do Łuki został naprawiony.

Obwód drogowy w miarę możliwości stara się wymieniać oznakowanie na bieżąco. Wymienione w notatce usterki zostały usunięte.

**Zastępca Dyrektora**
**Rejonu Dróg Publicznych**
**Mikołaj Minkiewicz**

**Да артыкула „АДКАЗ НА КРЫТЫКУ", „Ніва" № 4/1143 ад 22 студзеня 1978 года.**

**Адказвае: REJONOWE PRZEDSIĘBIORSTWO MELIORACYJNE W BIELSKU PODLASKIM.**

Ustosunkowując się do polemicznego artykułu („Niwa" nr 4/1143 z dnia 22.01.1978 roku) Waszego korespondenta dotyczącego usterek w drenowaniu na zadaniu inwestycyjnym Czeremcha — Rejonowe Przedsiębiorstwo Melioracyjne w Bielsku Podlaskim wyjaśnia co następuje:

Korespondent pisze, że napływają skargi użytkowników odnośnie usterek w drenowaniu. Tak jak zaznaczyliśmy w poprzednim piśmie usterki zgłoszone do nas przez Urząd Gminy w Czeremsze zostały usunięte. Przedsiębiorstwo nie jest w stanie przez okres 3 lat lustrować zakończenie roboty. W normalnym toku postępowania Urzędy Gmin działające bezpośrednio w terenie przyjmują uwagi użytkowników i przekazują je do wykonawcy.

Następna sprawa wymagająca wyjaśnienia to konserwacja urządzeń melioracyjnych. Czyszczenie rowów i studzienek nie leży w kompetencji Rejonowego Przedsiębiorstwa Melioracyjnego. Sprawą tą zajmują się Spółki Wodne i one pobierają opłaty za roboty konserwacyjne.

Jednocześnie nadmieniamy, że nie konserwowane urządzenia melioracyjne są niejednokrotnie przyczyną powstawania wad w drenowaniu.

Powyższych wyjaśnień proszę nie traktować jako całkowite zrzucenie z siebie odpowiedzialności. Krzywdzącym jednak dla Przedsiębiorstwa jest fakt publicznego przypisywania niedociągnięć innych organów gospodarki terenowej.

W sprawie dotyczącej bezpośrednio Rejonowego Przedsiębiorstwa Melioracyjnego wyjaśniamy: usterki badaliśmy ponownie w dniu 14 marca bieżącego roku. Okazało się, że istotnie są, ale o tym Przedsiębiorstwo nie było powiadomione. Ustaliliśmy z instruktorem do spraw melioracji Urzędu Gminy w Czeremsze Ob. Janem Kaczanowskim, że po rozmarznięciu gruntu i spłynięciu wód powierzchniowych będzie wspólnie dokonane sprawdzenie i ustalenie przyczyn wadliwego funkcjonowania odcinków drenowania.

W przypadku stwierdzenia wad wynikłych z winy wykonawcy, zgodnie ze stwierdzeniem w poprzednim piśmie „obowiązek ich usunięcia będzie spełniony".

Jednocześnie wyrażamy nadzieję, że sprawa ta nie będzie powodem polemicznych interwencji prasowych.

**Naczelny Inżynier**
**Zastępca Dyrektora**
**d/s Technicznych**
**inż. Józef Iwanowski**




**Запіскі натураліста**

### НОРЫ БЕЗ ЖЫХАРОЎ

На берагах ракі Белай у ваколіцах Бельска знаходзіліся водныя пацукі (піжмакі). Гэта жывёліна, якая будуе норы на берагах вадаёмаў, харчуецца яна раслінамі.

Я абышоў усе мясцовасці, але ад восені 1976 г. нідзе не сустракаю піжмакоў. Моцнай непарушнай „крэпасцю" іх было сховішча сярод звалаў камення, бетонных абломкаў ля чыгуначнага моста і глінянага выкапа ў напрамку на Гайнаўку (на р. Белай). Там яны былі ў поўнай бяспецы ад браканьераў — лапатай іх нельга выкапаць. Але здарылася з імі нешта іншае — іх пазабівалі дубальтоўкамі паляўнічыя.

Вясна і лета гэтага года мокрыя і халодныя. Прайшоў я з біноклем уздоўж ракі Белай ад Бельска да Левак, а ўздоўж ракі Любкі да Аўгустова. Усюды пуста: норы завалены, некаторыя раскапаны, без слядоў жыцця. Вярнуўся на гліняную энклаву каля чыгуначнага моста — і там пуста. Зніклі сляды піжмакоў на прырэчным муле, засталіся адны кусты над уваходнымі адтулінамі ў норы, чаромха і старая вярба. Візіт мой нават у вячэрні і самы непагодны час быў бескарысны: скрыпела старая вярба, шумела лісцё чаромхі, свістаў вецер, а чорныя адтуліны ў нару знаходзіліся ў магільным маўчанні, без знакаў жыцця. Мілыя і ў нічым не вінаватыя піжмакі знішчаны, яны заплацілі жыццём за сваё футра. Легенды, апісаныя кабінетнымі вучонымі, расказваюць, што піжмакі разбураюць берагі рэк і грэблі. Усё гэта плён фантазіі і адсталасці ў навуцы. Доследы па марфалогіі слядоў жыццядзейнасці гэтага не падтрымліваюць, бо норы піжмакоў з-пад вады ідуць адразу ўгору, што выключае магчымасць руху вады ў іх, а па гэтай прычыне і не наступае падмыванне берага ракі.

Сёння піжмакі патрабуюць тэрміновай аховы ад поўнага і пагалоўнага іх знішчэння.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**




**М. Панфілюк.** Здымка Рыгора Троца да артыкула аб ім не выкарыстаем. Тэхнічна не падыходзіць.

**А. Гаўрылюк.** Працягу святкавання дзён Бельска не апублікавалі. Просім не пісаць інфармацый у адрэзках.

**М. Рыгаровіч.** На жаль, у вашай справе, якую вы апісалі пад загалоўкам „Хочаш нажыць бяды, дык пазыч", нічога не можам памагчы. Калі факт сапраўдны, той чалавек выглядае вельмі брыдка, але гэта сапраўды справа судовая, ну і трэба сведкаў.

**О. Скаўронская.** Не падыходзіць нам ваша апавяданне пра канец вайны. Можа б вы напісалі нешта коратка аб цяперашнім жыцці вёскі Зверкі.

**Аўтар ці аўтары, падпісаныя „Суседзі і сваяк".** На жаль, не можам увогуле ўзяць пад рэдакцыйнае шкло гэту справу, бо гэта ж зусім ананімнае апісанне. Рэдакцыя не звяртае ўвагі на ананімы.




*

Яшчэ малады тады быў я,
Як вёску пакінуў сваю.
У арміі польскай служыў я
Ў другую сусветну вайну.
Вайна ў свет далёкі загнала
Па сініх глыбокіх марах,
Я бачыў там гора не мала,
Паранены быў у баях.
Я біўся пад Монтэ Касіна,
Глядзеў, як гарэла зямля,
Як кроўю салдацкай гасіла,
Як трупамі ўслана была.
Тады сніў я родны прасторы,
Дзе пах тых пад хатаю ліп,
У сне я блудзіў ў сваім полі
І чуў дзяцей радасны крык.
Заціхла вайна, зноў скітаўся
Ў заморскім далёкім краю.
Я жыці у ім не астаўся,
Забыць не мог землю сваю.
І зноў я вярнуўся у вёску,
Сустрэў дома родну сям'ю,
Я бачыў іх радасць і троску,
А ў сэрцы меў страшну вайну.
І тут пражыў годы шчаслівы
У ціхай сваёй старане,
Мне ў полі калышацца ніва
І ліпа цвіце для мяне.

*Паводле апавядання Андрэя Грыца з Цыванюкоў запісаў вершам*

*А. Леўшук*

